**ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА**

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



16 ліпеня 1994 г.
Субота
№ 77(13794)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**



*Малюе Віктар ДУБОВІК*



## Кур'ер "ЧЗ"

### Прэзідэнта выбралі – успомнілі пра Быкава

*Не паспеў афіцыйна ўступіць у свае правы першы беларускі прэзідэнт, а ў верхніх эшалонах улады змена поглядаў ужо назіраецца. Адна з прыкмет гэтага — Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі аб узнагароджанні народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава медалём Францыска Скарыны. Цяпер гэта самая прэстыжная ўзнагарода нашай маладой суверэннай дзяржавы.*

Месяц таму, калі адзначаўся 70-гадовы юбілей пісьменніка, кіраўніцтва рэспублікі нават не павіншавала чалавека, чые заслугі такія відавочныя. Але не абышлі высокай увагай падзеі і больш дробныя, напрыклад, 10-гадовы юбілей Мінскага метрапалітэна. Цяпер ва ўказе гаворыцца, што Быкаў унёс "значны ўклад у развіццё беларускай літаратуры і мастацтва, у справу нацыянальнага адраджэння".

### Урачыстасці з выпадку Дня незалежнасці

*Управа Беларускага народнага фронта звярнулася да грамадзян у сувязі з Днём незалежнасці Рэспублікі Беларусь.*

Аўтары звароту выказваюць упэўненасць, што "настане дзень, калі беларусы зноў зоймуць ганаровае і роўнае месца сярод народаў нашай старой добрай Еўропы". 27 ліпеня ў Мінску БНФ арганізуе шэсце гараджан да плошчы Незалежнасці, дзе адбудзецца мітынг, а таксама святочны канцэрт ля помніка Я.Купалу

БЕЛІНФАРМ.

### Прэзідэнта трэба ведаць у твар

*Такую параду даюць праваахоўныя органы тым, хто хоча засцерагчыся ад куплі фальшывых даляраў ЗША. Трэба толькі запомніць, якія прэзідэнты Амерыкі выяўлены на купюрах рознай вартасці. Вядома ж, так можна засцерагчыся толькі ад самых прымітыўных фальшываманетчыкаў, што павялічваюць вартасць купюры, прыклейваючы дадатковы нулік.*

Такія "махляры" былі затрыманы нядаўна ў Лідзе і Гродна. А ўсяго ў Гродзенскай вобласці сёлета выяўлена больш за 50 выпадкаў збыту фальшывых купюр— даляраў, нямецкіх марак, расійскіх рублёў і нават разліковых білетаў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. У 47 з іх органамі ўнутраных спраў устаноўлены асобы, якія займаліся збытам. Часцей за ўсё гэта жыхары паўднёвых рэспублік — чэчэнцы, інгушы, армяне, азербайджанцы.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### "Святыя" кіёскі засланілі "камкі"

*Рэлігійную літаратуру, паштоўкі, царкоўную атрыбутыку жыхары і госці Гродна могуць набыць у кіёску, які адкрыўся пры праваслаўным Свята-Уладзімірскім храме ў занёманскай частцы горада. Вялікім попытам, які не сніўся нават "снікерсам", карыстаюцца біблія, малітоўнікі, кніга-нарыс пра гісторыю праваслаўя на Беларусі.*

Гэта пакуль толькі другі такі кіёск у прыгранічным абласным цэнтры. Першы адкрыты мясцовай каталіцкай епархіяй і размешчаны па-суседству з самым буйным яе храмам — Фарным касцёлам.

БЕЛІНФАРМ.

### Кожны дзесяты – медаліст

*Аршанскі гарадскі аддзел адукацыі падвёў некаторыя вынікі навучальнага года. А яны нядрэнныя.*

Толькі адзінаццатыя класы гарадскіх і сярэдніх школ закончылі больш як 600 юнакоў і дзяўчат. Прычым, кожны дзесяты з іх атрымаў залаты або сярэбраны медаль.

Характэрна, што ўсе медалісты вырашылі паступаць у вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы, а некаторыя — у ваенныя вучылішчы.

Ісак КОГАН.

### Мастакоў вучаць у Гродна

*Першы выпуск дыпламаваных мастакоў-афарміцеляў адбыўся ў Гродзенскім вучылішчы мастацтваў. Васемнаццаць юнакоў і дзяўчат атрымалі новую спецыяльнасць.*

Кожны з іх выбраў свой творчы шлях. Пра гэта красамоўна сведчыць разнастайнасць дыпломных прац выпускнікоў. Тут і творы, выкананыя ў традыцыйнай манеры беларускага народнага мастацтва — размалёўкі, выцінанкі, вышыўкі і праекты афармлення інтэр'ераў у сучасным стылі, і працы ў рэдкіх, складаных тэхналогіях — маркетры, батык, разьба па гіпсе і шмат іншага.

Дзяржаўная камісія, якую ўзначаліў прарэктар Беларускай акадэміі мастацтваў Л.Я.Дзягілеў, адзначыла высокі творчы ўзровень маладых спецыялістаў.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Сябруюць Кіраўск і Ардорэ

*Пабрацімамі сталі раённы цэнтр Кіраўск і горад Ардорэ італьянскай правінцыі Калабрыя. Праграмай супрацоўніцтва двух рэгіёнаў прадугледжваецца наладжванне эканамічных і культурных сувязей.*

А пакуль добрую ініцыятыву першымі праявілі жыхары італьянскага горада. Яны сабралі сродкі, на якія закупілі і даставілі ў Кіраўск медыкаменты і абсталяванне для лячэбных устаноў. Агульны кошт іх складае 35 тысяч даляраў ЗША. У канцы ліпеня італьянцы запрасілі да сябе 27 кіраўскіх школьнікаў на аздараўленне.

### Беспрацоўным дапамагае... камп'ютэр

*Разумнага памочніка набылі супрацоўнікі цэнтраў занятасці насельніцтва Беларусі. У 92 такіх службах (а ў рэспубліцы іх налічваецца 152) ужо ўкаранёна інфармацыйна-вылічальная сістэма, якая мае вычарпальную інфармацыю аб стане рынку працы.*

Калі раней на прыём беспрацоўнага работнікі цэнтраў трацілі не менш чым паўгадзіны, то цяпер на гэта хапае 10—15 мінут. За такі час камп'ютэр паспявае зарэгістраваць таго, хто звярнуўся ў службу занятасці, выдаць звесткі не толькі аб рабочых вакансіях, але і хутка і ўмела пратэсціраваць чалавека, які часова не працуе, падказаўшы, чым яму лепш заняцца. Аднак і гэта не ўсё, што ўмее сістэма. На яе "плечы" ляглі складаныя бухгалтарскія разлікі па выплаце дапамог па беспрацоўю, стыпендый і матэрыяльнай дапамогі.

БЕЛІНФАРМ.

### На жалезным кані ўсе абыдзем палі

*Сёлета машынна-трактарны парк фермерскіх гаспадарак Віцебшчыны ў параўнанні з папярэднім годам павялічыўся на 57 працэнтаў, у тым ліку колькасць трактароў вырасла на 26 адзінак.*

Цяпер у фермераў вобласці 188 аўтамашын і 806 трактароў. Найбольшая колькасць тэхнікі прыходзіцца на Шумілінскі, Дубровенскі і Полацкі раёны, адпаведная сярэдняя колькасць на адну гаспадарку складае 1,7—1,6—1,4 трактара.

Яўгенія ВІЦЬБА.

**Курсы валют на 15 ліпеня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 26300 | 26800 | 17050 | 17600 |
| "Прыор" | 26600 | 26900 | 17250 | 17440 |
| "Пошук" | 26320 | 27100 | 16920 | 17500 |



Фота Сяргея БРУШКО.

**"ПАС" — палітыка-аналітычная служба**

# Палітыка ў стылі "рок"

☐ Якаў Ясэпкін,"ЧЗ"

*Выбарчы марафон завяршыўся, пераможца прымае шматлікія віншаванні, якія паступаюць на ягонае імя з рэспублікі, блізкага і далёкага замежжа.*

Учора Цэнтрвыбаркам у сувязі з тым, што ні ў Мінск, ні ў абласныя камісіі не паступала істотных скаргаў на папярэдне падведзеныя вынікі выбараў і арганізацыю галасавання ў час правядзення другога тура, афіцыйна падвёў вынікі. Аляксандр Лукашэнка чакае спецыяльнай сесіі Вярхоўнага Савета, дзе дасць публічную клятву на вернасць свайму народу, Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь. Сесія прызначана на 20 ліпеня. З крыніц, якія заслугоўваюць даверу, "прасочваецца" інфармацыя аб тым, што яшчэ да адкрыцця парламенцкага пасяджэння першы прэзідэнт вызначыцца з шэрагам кандыдатур на высокія пасады ў новым Кабінеце міністраў. У прыватнасці, з галоўнай фігурай ва ўрадавай пірамідзе — прэм'ер-міністрам. Называюцца то адны, то другія прозвішчы, бадай, лепш за ўсё пачакаць адкрыцця сесіі і пачуць пра прапановы прэзідэнта з першых вуснаў. Гэта, так бы мовіць, публічная абляможка паслявыбарчых дзён, для якіх увогуле характэрныя даволі сутаргавыя дзеянні і заявы палітыкаў рознай арыентацыі. Складваецца ўражанне: усе спяшаюцца ледзь не на наступную пасля выбараў раніцу выказаць свае меркаванні на поўны голас, спрагназіраваць развіццё сітуацыі, што ўвогуле і зразумела, калі ўлічыць наступнае. Выбарчы працэс не скончыўся ў ліпеньскі "дзень шчыравання". У агляднай будучыні ён падаецца перманентным, бо зусім хутка грымнуць парламенцкія выбары. Палітычныя ж дывідэнды на "асабовых рахунках" лідэраў постсавецкай хвалі патрабуюць пастаянных дадаткаў і папаўнення. У шэрагу выказванняў і ацэнак асобна стаіць заява Вячаслава Кебіча, распаўсюджаная 11 ліпеня. Наўрад ці прэм'ер усур'ёз разлічваў на перамогу ў другім туры, таму "скорасная" заява выглядае як разважлівы і прадуманы дакумент. Кебіч папярэджвае: многія ўспомняць і гэтыя выбары і гэты (маецца на ўвазе — ягоны) урад. Будучыня дасць магчымасць ацаніць такую прыхаваную ў тэксце перасцярогу, хаця першая і найбольш відавочная аналогія тут узнікае з развітальным словам Мікалая Рыжкова, які таксама папярэджваў аб небяспецы разбуральнай эйфарыі. Супадзенні чыста тэксталагічныя, ніякіх глыбокіх высноў з таго рабіць не трэба. Аднак падстава для разважанняў, прынамсі, ёсць.

На паверхні выбарчай явы-рэчаіснасці ляжыць відавочнае — асноўны пацярпеўшы пад час прэзідэнцкіх змаганняў ніхто іншы, як кіраўнік урада, цяпер ужо, дакладней будзе сказаць, былы кіраўнік былога ўрада. Ён прайграў не палітыку кшталту Шушкевіча ці Пазняка, не апаненту ў поўным сэнсе слова, а свайму двайніку, калі глядзець на рэчы праз прызму рэальнасці. Вядома, гэткі погляд у пэўнай ступені ўтрыраваны, магчыма, ён будзе абвергнуты ў самы бліжэйшы час. Але ідэнтычнасць многіх і многіх пазіцый і прыярытэтаў не выклікала вялікіх сумненняў нават да канчатковага зыходу барацьбы. Пры ўсёй павазе да трыумфальнага пераможцы яго цяжка залічыць у шэрагі барацьбітоў з сістэмай, у залаты спіс фронды. Розніца толькі ва ўзроўнях тых ніш, якія займалі абодва нядаўнія сапернікі ў манументальнай наменклатурна-сацыялістычнай і перабудовачнай сістэмах. Адзін доўгія гады знаходзіўся ўверсе, другі — дзесьці на сярэднім узроўні. Цяпер гэта не занадта і важна, Лукашэнка-палітык раскрыўся і ўзнік нібыта феерверк. Такі ўзлёт на "нябёсы ўлады" (аб чым справядліва гавораць замежныя аналітыкі, якія маюць пад рукой багата прыкладаў для аналогій, але аналагаў "феномену Лукашэнкі" не знаходзяць) не можа не ўражваць. Тым больш зразумела "крыўда" Кебіча, асабліва ўлічыўшы дасканалае веданне апошнім Сістэмы. Сталася так, што і ў яе быццам да дробязей вывучаных і стандартных нетрах таілася нямала "сюрпрызаў". І ўсё ж асабістыя пачуцці і крыўды цяпер адыходзяць на трэці план. Кардынальныя пытанні стаяць у гіганцкі рост перад грамадствам, значыць, перад прэзідэнтам. Адно з пытанняў такога парадку — фарміраванне новага ўрада, калі глядзець на яго ў перспектыве — фарміраванне каманды прэзідэнта, прэзідэнцкіх структур і вертыкалі. Вельмі важна, хто апынецца побач з Аляксандрам Лукашэнкам цяпер, бо для рэалізацыі праграмных прыярытэтаў патрэбны высокія прафесіяналы. Час дэкларацый мінуў, пасля афіцыйнага ўступлення на пасаду Аляксандр Рыгоравіч зможа распачынаць дзейнічаць канкрэтна. Тады, пасля 20-га ліпеня, і ступіць ён на самы цяжкі і складаны ў сваім жыцці шлях. Куды прывядзе "прэзідэнцкая дарога" яго і беларускі народ — пытанне пытанняў. Цалкам зразумелым і апраўданым было б выкарыстанне на такім шляху вопыту і ведаў усіх тых, хто вопыт і веды мае, без усялякай залежнасці і ўзаемасувязі з раней займаемымі, хай і высокімі крэсламі.

Хаця зусім не выключаны варыянт адмовы ад пасад у прэзідэнцкім урадзе з боку пэўных чыноўнікаў старой каманды, своеасаблівы байкот новаму істэблішменту. Святое месца пустым не бывае, але збег акалічнасцей і часу прымушае дзейнічаць хутка і рашуча. Асабліва маючы на ўвазе, што ў ходзе перамен уверсе ўладнай піраміды і перастановак фігур-правіцеляў, як правіла, церпіць перш-наперш эканоміка.

Паколькі беларускі эканамічны цягнік і без таго ледзь паўзе, фарміраванне новых структур набывае велізарнае значэнне. Дэкорам можна "ўпрыгожваць" палітычную авансцэну дзесьці, напрыклад, у адной з краін Старога Свету, толькі не на Беларусі. У нас кожны крок прэзідэнта трэба пралічваць далёка наперад і тут нічога не зробіш — інакш не дазваляе сітуацыя. Прыход народнага прэзідэнта зазначае, акрамя іншага, і тое, што палітыка цяпер будзе ажыццяўляцца-існаваць у стылі "рок" Народ абраў прэзідэнта, ягоная палітычная воля народны лёс, а крокі Аляксандра Лукашэнкі-прэзідэнта сапраўды можна параўнаць з ракавым поступам. Многія, многія спадзяванні і надзеі людзей звязваюцца з імем Аляксандра Рыгоравіча. І ад гэтых рэалій ужо нікуды не падзенешся.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

**Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Людміла КАХАВЕЦ, Віктар КАПАЧЭЛЬ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.**

### "Еўраньюс"

#### ІЗРАІЛЬСКА-ІАРДАНСКІЯ КАНТАКТЫ

*Адбылася сустрэча афіцыйных прадстаўнікоў Ізраіля і Іарданіі. Імі праведзены перамовы аб вызначэнні граніц паміж гэтымі краінамі, яны працягнуцца на больш высокім узроўні 18 ліпеня.*

Праз два дні чакаецца сустрэча міністраў замежных спраў Ізраіля, Іарданіі і дзяржсакратара ЗША. Кароль Іарданіі Хусейн даў папярэднюю згоду на сустрэчу з ізраільскім прэм'ер-міністрам Рабінам.

#### РАТУЮЦЦА АД ГЕНАЦЫДУ

*Больш за 100 тысяч бежанцаў з Руанды перайшлі граніцу Заіра. Большасць з іх — жанчыны, старыя і дзеці.*

Амаль усе яны належаць да этнічнай меншасці хуту, пацярпеўшай ад генацыду. Улады Заіра аб'явілі, што ў іх краіне ўжо знаходзіцца 150 тысяч бежанцаў. Яны высякаюць дрэвы, знішчаюць пасадкі, таму што гуманітарнай дапамогі ім яўна не хапае.

### "Суперчэннэл"

#### ГАІЦЯНСКІ ВУЗЕЛ...

*Ваенны лідэр Гаіці Седрас заявіў, што, нягледзячы на націск з боку ААН і пагрозу амерыканскага ўмяшання, ён не збіраецца перадаваць уладу былому прэзідэнту Арыстыду.*

Днямі ваенныя ўлады Гаіці выслалі з краіны 98 назіральнікаў ААН.

Тым часам ...зацягваецца тужэй экспедыцыйны корпус амерыканскіх узброеных сіл, які дзейнічае ў Карыбскім рэгіёне. Ён атрымаў загад у выпадку неабходнасці быць гатовым да эвакуацыі 3,5 тысячы амерыканскіх грамадзян з Гаіці.

Падобныя аперацыі праводзіліся ў 1983 і 1989 гадах, за імі былі падзеі ў Грэнадзе і Панаме. Нагадаем: ЗША выступаюць за вяртанне да ўлады законна абранага прэзідэнта Гаіці Арыстыда.

#### ДЗЕ ПАЖАРЫ, ДЗЕ ПАВОДКА

*Улады ЗША змагаюцца з 2 стыхіямі — агнём і вадой.*

Страшныя пажары ў Арызоне ў раёне Вялікага Каньёна ўжо знішчылі 10,5 тысячы акраў зялёнай зоны, у штаце Нью-Мехіка — 75 тысяч акраў.

А ў штаце Джоджыя, наадварот, — страшная паводка, выкліканая трапічным штормам.

### "Уорлднэт"

Больш за паўмільёна людзей не маюць цяпер свежай пітной вады, 15 тысяч мясцовых жыхароў эвакуіраваны з раёна бедства.

#### У АФРЫЦЫ ПРЭЗІДЭНТ – НЕ ПРЭЗІДЭНТ

*Федэральны суд Нігерыі адмовіўся выпусціць пад заклад лідэра апазіцыі Абіолу.*

Ён абвінавачваецца ў здрадзе інтарэсам краіны пасля таго, як абвясціў сябе прэзідэнтам гэтай афрыканскай дзяржавы.

#### ЕЎРАСАЮЗ: АДЗІНАЯ ВІЗА

*Еўрапейская камісія аб'явіла аб стварэнні ў бліжэйшай будучыні адзінай візы для ўсіх краін Еўрапейскага саюза.*

### "TV-5"

Гэты дакумент немагчыма падрабіць. Віза будзе прызнана ўсімі іміграцыйнымі службамі краін — членаў Еўрасаюза.

#### ПАЛЬЧАТКА – СВЕДКА

*У славутай справе аб абвінавачванні О.Дж.Сімпсана ў забойстве былой жонкі і яе новага сябра з'явілася яшчэ адна старонка.*

Тэст, які правялі эксперты, амаль на сто працэнтаў пацвярджае, што акрываўленая пальчатка, знойдзеная ў доме вядомага спартсмена, утрымлівае кроў Сімпсана і дзвюх яго ахвяр. Аднак Сімпсан па-ранейшаму не прызнае сябе вінаватым.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"



## КНДР: прэзідэнцкая дынастыя

*Як паведаміла радыё Пхеньяна, паўночнакарэйскага прэзідэнта Кім Ір Сена, які памёр некалькі дзён таму, заменіць на пасадзе кіраўніка дзяржавы ягоны сын Кім Чэн Ір.*

Ён абраны Генеральным сакратаром ЦК Працоўнай партыі Карэі і прэзідэнтам КНДР. Менавіта такімі тытуламі суправаджаецца імя Кім Чэн Іра з вечара 12 ліпеня. Рашэнне аб перадачы ўлады сыну "вялікага правадыра" было прынята на закрытым пленуме ЦК партыі ў Пхеньяне.

## "Сакрэтная тройка"... засвяцілася

*У Італіі зняты з пасады кіраўнікі трох сакрэтных службаў.*

Міністр унутраных спраў заявіў, што па іх загаду складаліся сакрэтныя дасье на ключавых фігур Італьянскай палітыкі, а за вядомымі палітычнымі дзеячамі краіны вялося незаконнае назіранне.

## Паліцэйская пастка

*Усе выхады з грэчаскага вострава Родас перакрыты паліцыяй у сувязі з тэрарыстычнымі выбухамі. На думку паліцэйскіх, арганізатары тэракта ўсё яшчэ знаходзяцца на востраве–курорце.*

У бліжэйшы час сюды прыбудзе 100 афіцэраў з групы па барацьбе з тэрарызмам. Міністр замежных спраў Грэцыі мяркуе, што акцыя ажыццёўлена агентамі іншых дзяржаў.

## Кошка–вандроўніца

*Кур'ёзны выпадак адбыўся ў ЗША. Кэрал Эн Цімэл заявіла аб прапажы сваёй любімай кошкі па мянушцы Табіта, якая знікла з багажу гаспадыні на борце рэйсавага самалёта "Нью–Йорк–Лос–Анжэлес".*

Здарылася гэта 30 чэрвеня. Самалёт жа абшукалі толькі 12 ліпеня. Кошку знайшлі за адной з панэлей. Яна была зусім здаровая. Паводле падлікаў авіятараў, "пасажырка" налятала больш за 50 тысяч кіламетраў.

## Хітрыкі мадэльера

*Канкурэнты–сапернікі вядомага мадэльера Валенціно абвінавацілі яго ў тым, што ён наўмысна наладзіў прэс–канферэнцыю супермадэлі Клаўдзіі Шыфер практычна ў адзін час з паказам мадэлей другога майстра — Эгона фон Фюрстэнберга.*

Ледзь не ўсе журналісты, якія прысутнічалі на дэманстрацыі калекцыі Фюрстэнберга, пакінулі залу праз некалькі хвілін пасля пачатку шоу, каб паспець на прэс-канферэнцыю нямецкай супермадэлі.

## Слова Янга не выратавала

*Усяго за некалькі дзён да самагубства лідэра "Нірваны" Курта Кобейна вядомы рок–музыкант Нэйл Янг прасіў яго не рабіць гэтага.*

На думку Янга, Кобейн мог стаць сапраўдным кумірам амерыканскай моладзі. Янга прымусіла напісаць Кобейну першая няўдалая спроба самагубства музыканта ў Рыме.

## ...І вішнёва–чырвоная гітара

*У бліжэйшы час калекцыя прадметаў, якія належалі Джымі Хендрыксу, будзе прададзена з аўкцыёна.*

Уся калекцыя ацэньваецца ў 150 тысяч фунтаў. Аўкцыён пройдзе ў жніўні, ён прымеркаваны да 25-годдзя першага канцэрта вялікага музыканта ў Вудстаку. Самы каштоўны прадмет — вішнёва-чырвоная гітара Хендрыкса, якую ацэньваюць у 40 тысяч фунтаў.

## Суддзя Альварэс лёгкі на пад'ём

*Дамініканскі суддзя Хьюга Альварэс гатовы вылецець у ЗША, каб прадставіць сведчанні таго, што ў маі гэтага года ў Дамініканскай рэспубліцы Майкл Джэксан ажаніўся з дачкой Элвіса Прэслі Ліз–Мары.*

Такі "дэмарш" суддзі выкліканы тым фактам, што прадстаўнік Майкла абвергнуў падобнае паведамленне, якое з'явілася ў дамініканскім друку.

## ТЫДЗЕНЬ ПА ГАРАСКОПУ



18—24 ЛІПЕНЯ

### РАК

Пастарайцеся ажыццявіць усё, што плануеце, да 23-га. Магчымы матэрыяльны прыбытак.

У сярэдзіне тыдня атрымаеце нейкую цікавую прапанову.

Наведайце сваіх сяброў у выхадныя. Перад вамі адкрыюцца новыя перспектывы. Захоўвайце асцярожнасць 23-га і 24-га.

### ЛЕЎ

У аўторак пазбягайце канфліктаў у сям'і і на працы. Звярніце ўвагу на сваё здароўе.

Пасля 20-га ці 22-га дама сустрэне мужчыну сваёй мары.

У канцы тыдня можаце адправіцца ў камандзіроўку. Поспех у бізнесе.

### ДЗЕВА

Займіцеся вырашэннем важных спраў на працы. Лепшы час для адпачынку, набыцця нерухомасці.

Максімальна выкарыстайце магчымасці 21-га і 22-га.

У нядзелю больш часу ўдзяліце сваім родным і сябрам.

### ШАЛІ

На пачатку тыдня пастарайцеся адправіцца ў падарожжа. Устрымайцеся ад грашовых аперацый.

Перамены ў каханні пачнуцца з серады. У вас з'явіцца шмат ідэй.

24-га будуць паспяховымі сустрэчы з сябрамі і блізкімі.

### СКАРПІЁН

Удача ў асабістым жыцці.

Пасля 20-га асцерагайцеся ўсялякіх паездак. Будзьце ўпэўненымі ў сабе.

Праблемы ў бізнесе дапаможа вырашыць чалавек з вашага асяроддзя.

### СТРАЛЕЦ

Стрымлівайце свае эмоцыі ў панядзелак. Спрыяльны час для дзелавых паездак.

Пастарайцеся давесці пачатае да канца 21-га і 22-га. Павысіцца ваша абаянне і прывабнасць.

Настаў час пісаць дзелавыя лісты, весці перамовы.

У выхадныя будзьце тактоўнымі ў гутарках з сябрамі.

### КАЗЯРОГ

Цудоўны час для забаў і кахання. Асцерагайцеся сур'ёзных захворванняў. Перамены ў грашовай сферы.

Пасля 20-га верагодна цікавае знаёмства.

У суботу займіцеся хатнімі справамі. Пазбягайце высвятлення адносін з роднымі.

### ВАДАЛЕЙ

18-га звярніце ўвагу на сваю нервовую сістэму.

19-га і 20-га паспяховыя сустрэчы з сябрамі.

20-га, 21-га, 23-га пастарайцеся ні з кім не канфліктаваць. Больш часу правядзіце на свежым паветры.

### РЫБЫ

Паклапаціцеся пра сваіх блізкіх. Пастарайцеся высветліць усе непаразуменні на працы.

У сярэдзіне тыдня не рабіце ніякіх вялікіх пакупак. Будзьце ўпэўненымі ў сабе.

Захоўвайце асцярожнасць 20-га і 21-га.

### АВЕН

Не ідзіце наперадзе ўсіх. Не заўсёды першы выйграе. Пастарайцеся не нервавацца. Пазбягайце ўсялякіх плётак.

Трымайце сябе ў руках 20-га і 21-га.

Магчыма цудоўная сустрэча 24-га. Але не злоўжывайце спіртным.

### ЦЯЛЕЦ

Больш часу праводзьце на прыродзе. Непаразуменні ў бізнесе.

Рэалізацыя творчых планаў і ідэй пачнецца з 20-га. Атрымаеце звесткі ад даўніх знаёмых. Спрыяльная абстаноўка ў сям'і.

Удзяліце ўвагу свайму здароўю і здароўю сваіх блізкіх у канцы тыдня.

### БЛІЗНЯТЫ

Удача ва ўсіх вашых пачынаннях. Займіцеся вырашэннем фінансавых праблем.

Будзьце асцярожнымі 20-га і 21-га. Звярніцеся па дапамогу да сваіх сяброў.

МАРАЛЬНЫ КОДЭКС

# Слепата

□ Мікола ФАМІЧОЎ

*Я чакаў пад дзвярыма, пакуль набліжаліся цяжкія, марудныя крокі. Дзверы адчыніліся не адразу — спачатку спыталі, хто я і па якой прычыне прыйшоў. Калі ж адказаў, што сусед, — ляснуў замок. На парозе стаяла сівая жанчына. Вочы, не міргаючы, глядзелі паўз мяне. У кватэры не гарэла святло, але гаспадыні гэта і не патрабавалася: яна была сляпая.*

### БАЦЬКА

Бацька вылучаўся строгасцю і патрабавальнасцю. Шмат гадоў адпрацаваўшы ў міліцыі, ён і ў сям'і наладзіў жалезную дысцыпліну. Усе ў доме падпарадкоўваліся яго раскладу. У кожнага было кола сваіх абавязкаў, кожны павінен быў клапаціцца пра дабрабыт і сямейны гонар. У іх лексіконе слова "нельга" сустракалася куды часцей за слова "можна". Нельга так апранацца, нельга без справы бадзяцца па вуліцы, нельга прыходзіць позна дамоў. З цягам часу бацька пачаў аддаваць перавагу карным мерам. Здаралася, браў у рукі папругу... Маці, зрок якой катастрафічна пагаршаўся, стала падазронай, раздражнялася з-за дробязей і ўсё часцей станавілася на бок бацькі. Ён жа, пераканаsucceeded ў тым, што заўсёды мае рацыю, рабіўся ўсё больш жорсткім, і трапіўшая ў гэтыя "жорны" дачка сама сабе здавалася салдатам, які маўкліва выконваў чыесьці загады.

### МАЦІ

Калі ж пачаўся гэты жах? Калі яны страцілі дачку? Маці вінавацілa сваю хваробу, якая даймала яе амаль усё жыццё, бо прыйшла з нараджэннем дачкі: у раддоме жанчына застудзілася, цяжка захварэла, перанесла дзве складаныя аперацыі, а потым раптам пачаў пагаршацца зрок...

Кажуць, што ў хворых людзей рэзка абвастраюцца адны ўспрыяцці замест другіх, прытупленых хваробаю. Калі пачалі "тухнуць" вочы, яна раптам амаль фізічна адчула адчужэнне дачкі, яе маўклівую варожасць. Зробіш заўвагу — не агрызнецца, не нагрубіць, а толькі прамаўчыць.

Закончыўшы восем класаў, дачка паступіла ў тэхнікум. На першым курсе яшчэ так-сяк вучылася, а на другім пачаліся скандал за скандалам, дайшло да ўцёкаў з бацькоўскага дома. Суседкі даносілі: "Бачылі вашу... з каўказцамі" ці "А ваша зноў з хлопцамі ў машыне ездзіць...".

Ці то слёзы вымылі з вачэй маці апошняе святло, ці то хвароба ўзяла сваё, — толькі бачыць яна перастала зусім. А тут яшчэ два ўдары адзін за адным: за паўгода смерць забрала і мужа, і сына. Дачка прыйшла на памінкі з чарговым кавалерам. "Не пакідай мяне", — папрасіла маці. І пачула ў адказ: "Нічога, не памрэш".

...Я азіраў кватэру. Тут было ўсё, што трэба. Усё, што набывалася гадамі для яе, адзінай, любімай. А яна, выходзіць, адказала самай чорнай няўдзячнасцю? Ды ў тым і справа, што не ўсё так проста дзеліцца на "белае" і "чорнае". Маці, напрыклад, расказала, што, не справіўшыся з дзяўчынкай сваімі сіламі, яны з мужам звярнуліся некалі па дапамогу ў міліцыю: папрасілі... паставіць дачку на ўлік. "Як на ўлік? — здзівіўся я. — Хіба яна ўчыніла злачынства?". "Ды не, да гэтага не дайшло. Так проста заявілі — на ўсялякі выпадак".

### ДАЧКА

...Яна гатовая была начаваць на вакзале — толькі б не ісці ў сваю, на першы погляд, утульную, але такую халодную кватэру. Глынуўшы аднойчы паветра "поўнай свабоды", яна ўжо не магла спакойна вяртацца ў "хатнюю клетку", ахвотна шукала і знаходзіла прытулак у іншых ложках. Ці кальнула яе хоць раз думка, што чужыя людзі ад міласэрнасці прыносяць маці ежу, што ў кватэры даўно ўжо не запальваецца святло, што сляпая жанчына, абмацваючы рукою сцены на лесвіцы і баязліва ступаючы па прыступках, часта выходзіць на двор проста без мэты — толькі каб пабыць сярод людзей, паслухаць іх галасы, смех.

Між тым, у дачкі з'явіўся новы сябар, і яна не на жарт захапілася ім. Калі хлопец прапанаваў згуляць вяселле, згадзілася не думаючы. Не звярнула нават увагі на тое, што спачатку "жаніх" доўга распытваў, якая ў іх жылплошча, якая дача, ці ёсць у маці зберажэнні і да т.п. Неўзабаве абое заявіліся на кватэру. Дачка з парога паведаміла, што будучага мужа трэба прапісаць, перапісаць на яго дачу і даць грошы на вяселле. Маці слухала і абвостраным сэрцам адчувала небяспеку. "Не, — адказала цвёрда. — Нічога такога я рабіць не буду. Усё, што ў мяне ёсць, — тваё. А гэтага чалавека я не ведаю".

Дачка пачала лаяцца. І тут упершыню загаварыў ён. "Навошта ты крычыш на маці? Сама хутка станеш мамай...". Сэрца ў старой і сляпой жанчыны закалацілася: дачка насіла дзіця.



...Роды былі вельмі цяжкімі. Але дарэмна чакала маладая маці кветак і запісак ад шчаслівага бацькі — ён нібыта ў ваду кануў. А ў яе — ні вопраткі, каб выйсці з раддома, ні коўдры, каб загарнуць немаўля. І тады, перасіліўшы сябе, яна набрала знаёмы нумар: "Мама, я не ведаю, што мне рабіць... Дапамажы".

### РАЗАМ

Цяпер яны жылі разам — дачка, якая стала маці, маці, што зрабілася бабуляй, і маленькая істота, у якой не было яшчэ нават імя. "Не хвалюйся, — сказала маці дачцэ, — пражывем як-небудзь. Пенсія ў мяне ёсць, праз год і ты на працу ўладкуешся". Дачка маўчала. А праз месяц, выйшаўшы на вуліцу раніцай, вярнулася позна ноччу.

...Бабуля пачула знаёмае пакрэхтванне з кутка. Цяжка паднялася, выцягнуўшы перад сабою рукі, і патэпала на дзіцячыя гукі. Хлопчык нарадзіўся з цяжкай мазгавой паталогіяй. Ён так часта і моцна хварэў, што ўрачы здзіўляліся, як дзіця яшчэ жыве. Але бабуля не бачыла калецтва ўнука — Бог пазбавіў яе гэтага няшчасця. Затое яна чула, як ён прыцмоквае ў сне, і верыла: гэты хлопчык пасланы ёй як узнагарода за ўласныя пакуты.

...Дачка вярнулася не адна — з ёю явіўся... бацька дзіцяці. "Я забіраю сына. Мы выязджаем". "Ды куды ж вы з такім маленькім? — перапалохалася бабуля. — Жывіце тут". Не чуючы адказу, узмалілася: "Дачка, хоць ты апамятайся, я цябе ад прорвы адцягваю!". Зяць засмяяўся: "Ты, маці, запомні: пакуль усё на мяне не перапішаш — не ўбачыш ні дачкі, ні ўнука...".

* * *

Я расказаў гэтую гісторыю не для таго, каб чыёсьці сэрца ўздрыгнула ад яшчэ адной чалавечай драмы. Духоўная слепата знявечыла нас — не разумеем, што робім, не ведаем, у што выльецца бацькоўская жорсткасць, у што ператворацца дзіцячыя слёзы. Ні голасу крыві, ні голасу сумлення не чуваць у аглухлых і аслепленых сэрцах.

А бабуля, між іншым, забыўшыся пра сябе і сваю бяду, б'е ў званы: даведайцеся, дзе ўнук, вярніце яго. Трывожыцца: малы павінен знаходзіцца пад пастаянным наглядам медыкаў. Заклікае: не называйце маё імя, — яны, дачка з зяцем, на ўсё здольныя. Я пазваніў урачу, які лячыў малога, і спытаў: ці магу дзейнічаць праз газету ад імя медыкаў, не называючы бабулю? Маўляў, урачы, непакоячыся пра лёс свайго маленькага пацыента, просяць паведаміць яго каардынаты... "Што вы! — адказалі мне. — Галоўны ўрач супраць таго, каб умешваць нашу паліклініку ў гэтую гісторыю. Мы сваю справу зрабілі — адправілі дакументы ў абласны аддзел аховы здароўя. Астатняе нас не датычыцца".

На тым канцы проваду раздаліся кароткія гудкі...

ЮБІЛЕІ

# Памяць сэрца



Наша знаёмства адбылося крыху больш за дваццаць гадоў таму. Я тады быў яшчэ студэнтам кансерваторыі, а Віктар Вуячыч — ужо прызнаным майстрам эстраднай песні.

Як цяпер памятаю, быў пахмурны, крыху дажджлівы асенні дзень. І вось я вырашыў паказаць маэстра сваю новую песню. Спачатку вельмі хваляваўся: усё ж як-ніяк, а іду да Вуячыча! Як гэта ўсё будзе выглядаць?! Як буду прыняты з новай песняй. Тым больш, што па тым часе, будучы на грэбені славы і прызнання, спявак у рэпертуары не меў патрэбы. Хапала ў яго песень маскоўскіх і ленінградскіх аўтараў. А паводле водгукаў маіх калег, я ведаў, што Віктар Лук'янавіч вельмі патрабавальны, асабліва да вершаў. Нават калі з музыкай усё будзе нармальна, а тэкст, на яго погляд, патрабуе дапрацоўкі, лічы, што ўсё прапала.

У тыя часы мы, студэнты кампазітарскага аддзялення, "хварэлі" за сваіх беларускіх выканаўцаў. Тады "Песняры" ўжо набіралі вышыню, прабіваючы сваю дарогу, за імі — "Верасы" і "Сябры".

Сярод кампазітараў-песеннікаў Ігар Лучанок ішоў сваім шляхам і быў аб'ектыўна наперадзе ўсіх.

Успамінаецца адна сустрэча ў Доме радыё. Ішоў запіс новай песні, калі не памыляюся, песні "Верасы" І.Лучанка. Віктар Лук'янавіч толькі што вярнуўся з Чылі, дзе прымаў удзел у міжнародным песенным фестывалі. У перапынку запісу ён расказваў пра цікавыя сустрэчы са спевакамі розных краін, пра Чылі.

Ах, як хутка бяжыць час! А здаецца, што зусім нядаўна, у 1967 годзе, нікому тады яшчэ невядомы Віктар Вуячыч становіцца лаўрэатам Першай прэміі Усесаюзнага конкурсу эстраднай песні. Сам Леанід Осіпавіч Уцёсаў — старшыня журы — аддаў перавагу беларускаму спеваку. Відаць, нямногія ведаюць, што ў гэтым конкурсе тады ўдзельнічаў ужо вядомы Іосіф Кабзон.

Для Віктара Лук'янавіча настае самая шчаслівая пара. Ён многа гастралюе. Не кожнаму спеваку пад сілу праспяваць канцэрт у двух аддзяленнях! Эрудыцыя, знешнасць, абаянне, працавітасць, голас — гэта тыя важныя якасці, якімі спевака адарыла прырода і якія адыгралі вызначальную ролю ў яго далейшым лёсе музыканта.

Вуячыч па-сапраўднаму становіцца любімым выканаўцам. Ён многа запісваецца на радыё, выступае па тэлебачанні. У гэты ж час ён удастойваецца прызоў на міжнародных конкурсах у Сопаце, Японіі. Яго канцэрты праходзяць з велізарным поспехам пры перапоўненых залах у Крыме і на Далёкім Усходзе, на Украіне і Каўказе, у Маскве, Ленінградзе і, вядома ж, у роднай Беларусі.

Што ж я асабіста, як кампазітар, цаню ў Вуячычы-чалавеку і музыканце?

Па-першае, ён, нягледзячы на рангі і званні, заўсёды знойдзе час сустрэцца з кампазітарамі і паэтамі, з аранжыроўшчыкамі, паслухае новыя песні. Ад яго заўсёды можна пачуць слушную параду. Па-другое, гэта адзін з нямногіх выканаўцаў, які выстройвае свой рэпертуар амаль поўнасцю з песень беларускіх аўтараў. Ён, як прафесіянал сваёй справы, заўсёды імкнецца да таго, каб максімальна дакладна перадаць характар і змест песні. І гэта, паверце, яму ўдаецца. Хто не ведае такія выдатныя песні як "Памяць сэрца", "Стаяць на рэйдзе нашы брыганціны", "Верасы", "Я прыйду", "Палессе". Гэта песні, якім пуцёўку ў жыццё даў народны артыст Рэспублікі Беларусь Віктар Вуячыч. Яго па праву можна назваць бацькам беларускай эстрады.

Мінае час. На музычных афішах з'яўляюцца новыя імёны. І гэта заканамерна. Нікуды, як кажуць, ад гэтага не дзенешся. Але часта ў нас так атрымліваецца, што тое добрае, што зроблена таленавітым чалавекам для Беларусі, не важна ў якой галіне, вельмі хутка забываецца. Крыўдна, вядома. Але шчаслівая зорка Віктара Вуячыча, якая загарэлася сорак гадоў таму (а ў мастацтве ўтрымацца столькі часу, ой, як нялёгка), гарыць і ззяе рознымі гранямі.

Дзякуй, Віктар, за тое, што Вам, першаму ўдалося на крылах свайго таленту данесці беларускую эстрадную песню жыхарам многіх краін!

**Валерый ІВАНОЎ, кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі.**



## «НОТНЫ АРКУШ» № 13 (248)

*Вядучы —Вітаўт МАРТЫНЕНКА*

Тэл. 68-29-26

### Памяць

*Для аматараў бардаўскай песні 25 ліпеня — жалобная дата. Сотні людзей збіраюцца ў гэты дзень на Ваганькаўскіх могілках у Маскве ля помніка Уладзіміру Высоцкаму, каб аддаць даніну павагі славутаму барду, паэту, акцёру, мужнаму чалавеку. Так было заўсёды: і калі Высоцкі быў не ў пашане сярод брэжнеўскага афіцыёза, і калі яму афіцыйна вярнулі права на ўсенародную любоў. Любяць Высоцкага і ў Расіі, і ў Францыі, і ў ЗША. Не выключэнне і Беларусь. Аднак, вершы ягоныя загучалі па–беларуску ўпершыню на старонках "Чырвонай змены" толькі сёлета.*

*Уладзімір ВЫСОЦКІ*



### ЁН НЕ ВЯРНУЎСЯ З БОЮ

І чаму ўсё ня так?
Нібы ўсё, як тады:
Тое ж неба, ізноў, як вясною,
Той жа лес,
той жа пах усё той жа вады.
Толькі ж не...
Не вярнуўся ён з бою.
Як жа мне зразумець,
хто меў права пазнаць
у нашых спрэчках
без сну і спакою,
Яго толькі мне зараз
ня стала хапаць,
калі ён не вярнуўся ўжо з бою.
І маўчаў ён няўчас,
і ня ў такт падпяваў,
ён заўжды гаварыў не парою,
ён мне спаць не даваў, ён на
ўсходзе ўставаў,
учора ж, бач,
не вярнуўся ён з бою.
Нешта пуста цяпер...
Што я тут гаманю:
мы ж сям'ёю жылі з ім адною...
Для мяне быццам
дождж хвастануў па агню,
Як пачуў: не вярнуўся ён з бою.
Сёння рынула, нібы з палону,
вясна,
памылкова гукнуў я зарою:
"Сябар, дай дакурыць", —
а ў адказ цішыня...
Не вярнуўся ж учора ён з бою.
Нават з мёртвымі
нам не сканаць у бядзе —
Нашы паўшыя як вартавыя...
Адбіваецца неба ў гаі, бы ў вадзе,
дрэвы быццам стаяць нежывыя.
Нам і месяца ставала заўжды
ў будане,
Мы і час свой дзялілі гурбою...
Усё цяпер аднаму,
ды здаецца ўсе ж мне,
што не ён,.. не вярнуўся я з бою.

### СЫНЫ ІДУЦЬ У БОЙ

Стук сэрца ня чуе
ўжо сёння баец.
Яно для прысад і дзяўчатак.
Я падаю грудзьмі
схапіўшы свінец
Згадаўшы цябе, мой нашчадак:
"На гэты раз мне не вярнуцца,
другі адразу стане ў шыхт.
Мы не паспелі, не паспелі,
не паспелі азірнуцца
і ўжо сыны ідуць у бой,
ужо сыны.
Вось нехта сказаў:
"Пасля нас хоць патоп"
І як у бездань пакрочыў з акопу.
Я ж дзеля таго
свой пакінуў акоп,
Зусім не было каб патопу.
І вочы вось ужо звядуцца,
навек зліюся я з зямлёй.
Мы не паспелі, не паспелі,
не паспелі азірнуцца,
і ўжо сыны,
і ўжо сыны ідуць у бой.
Хто ж заменіць мяне,
хто падымецца ў бой?
Прыйдзе да запаветнага масту?
І мне закарцела:
"Хай будзе вунь той,
Апрануты не па ўзросту".
Паспею я шчэ ўсміхнуцца.
Я бачу, хто ідзе за мной.
Мы не паспелі, не паспелі,
не паспелі азірнуцца,
і ўжо сыны,
і ўжо сыны, ідуць у бой.
У разрывах ня чуе стук
сэрца баец,
Маё ж гучна б'е на астатак.
Ды ўсё ж мой канец —
яшчэ не канец.
Канец — гэта чыйсьці пачатак.
Дык вочы вось ужо звядуцца,
Навек зліюся я з зямлёй.
Мы не паспелі, не паспелі,
не паспелі азірнуцца,
і ўжо сыны, і ўжо сыны,
ідуць у бой.

**Пераклаў з рускай мовы Алесь БАРКОЎСКІ.**

### Відэасалон




*Ліпень — месяц "Басовішчанскі", свята зноў адбудзецца ў Польшчы. На здымку Жанны Маёравай — момант падрыхтоўкі сцэны.*

### Нататнік

Прадзюсер рок-гурта "ДОКТАР ДРЭ" адхіліў ідэю распачаць працу над новым альбомам, а сваю пазіцыю растлумачыў наступным чынам: "Часам можна нашкодзіць сабе залішняй актыўнасцю. Вы атрымліваеце грошы, грошы і грошы, забываеце на творчасць, трапляеце ў вір і... скочваецеся па схіле гары шоу-бізнесу".

* * *

Як паведамляе польскі штомесячнік "Czasopis", нядаўна акцёр Гродзенскага тэатра лялек і вядомы беларускі бард Віктар ШАЛКЕВІЧ распачаў працу над новым альбомам пад назвай "Смутны беларускі блюз". Фінансавымі спонсарамі выдання гэтай касеты сталі беларускія суполкі ЗША.

* * *

Летась група "БРАТЫ Х'Ю" атрымала ўзнагароду MTV за лепшы кліп года дзякуючы свайму твору пад назвай "Пагроза грамадству". Натхніўшыся поспехам, калектыў цяпер распачаў працу над новай серыяй кліпаў, змест якіх накіраваны супраць гвалту і бяспраўя.

* * *

У сапраўднае пан-беларускае турнэ ператварыўся чэрвеньскі цыкл канцэртаў гурта "КРАМА" пад агульнай назвай "Рок за БНФ". Калектыў паспяхова выступіў у Жодзіна, Полацку, Віцебску, Маладзечна, Наваполацку, Оршы, Магілёве, Гомелі, Рэчыцы, Светлагорску, Салігорску, Слуцку. Такім чынам, з запланаваных 15 канцэртаў не адбыліся толькі тры: два па віне арганізатараў (Бабруйск, Жлобін) і адзін па віне ўладных структур (Барысаў). На падставе апошняга факта распачаты судовы працэс.

* * *

Сямейны разлад апанаваў апошнім часам сям'ю Джэксанаў. Джанет ДЖЭКСАН пасварылася са сваёй сястрой Ла Тойяй (абедзве таксама папулярныя спявачкі) за тое, што апошняя падтрымала абвінавачванне ў дэмаралізацыі непаўналетніх, якое летась было вылучана супраць іхняга брата Майкла Джэксана. "Калі вам здраджваюць нават найбліжэйшыя сваякі, дык і іншым можа падацца, што абвінавачванні абгрунтаваныя", — заявіла яна.

